Пролетарыі ўсіх краін, еднайцеся!

# ВОЛЬНАЯ ПРАЦА

Орган Беластоцкага абкома і гаркома КП(б)Б і аблвыканкома.

Год выдання другі.

№ 38 (107) ПЯТНІЦА 16 ЛЮТАГА 1940 г.

Цана 10 капеек

## Учора пачалося вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўных Советаў СССР і БССР ад заходніх абласцей Беларускай ССР

# На ўсіх агульных сходах працоўных Беластока і Гродна аднадушна вылучан першым кандыдатам у дэпутаты вялікі СТАЛІН і яго баявыя саратнікі таварышы МОЛАТАЎ, ВАРАШЫЛАЎ і КАГАНОВІЧ

## Першыя кандыдаты

Учора адбыліся многалюдныя сходы на прадпрыемствах Беластока, Гродна, Ломжы і іншых гарадоў нашай абласці, прысвечаныя вылучэнню кандыдатаў у Вярхоўныя Советы СССР і БССР. Сходы прайшлі ў абстаноўцы найвялікшага ўздыму. Упершыню ў сваім жыцці працоўныя заходніх абласцей маюць магчымасць адкрыта выразіць сваю волю, вылучыць кандыдатаў у Вярхоўныя органы ўлады. Не памешчыкі і капіталісты, не банкіры і гандляры, не агенты англа - французскага імперыялізма: пэпэсаўцы, бундаўцы і іншая нечысць рашаюць лёс мільённых мас. Сам народ, працоўныя масы называюць імёны сваіх кандыдатаў, называюць імёны лепшых сыноў і дочак народа, адданых сваёй любімай радзіме—СССР, сваёй партыі, свайму любімаму Сталіну.

**Першым кандыдатам народ назваў свайго бацьку і настаўніка, свайго вызваліцеля, свайго** любімага правадыра і друга таварыша **Сталіна.** Цяжка апісаць радасць, з якой рабочыя сустрэлі гэта любімае імя. Сталін — тварэц і арганізатар перамог нашай соцыялістычнай радзімы. Сталін — тварэц самай дэмакратычнай у свеце Канстытуцыі. Сталін—друг і бацька ўсіх прыгнечаных народаў свету. У асобе таварыша Сталіна советкі народ бачыць сваю сілу ў барацьбе за канчатковую пабудову комунізма. З велізарнейшым уздымам сустрэты прапановы аб вылучэнні кандыдатамі ў дэпутаты Вярхоўнага Совета бліжэйшых саратнікаў таварыша Сталіна таварышоў **Молатава, Варашылава і Кагановіча.**

Агульныя сходы рабочых, работніц і служачых тэкстыльнага камбіната № 2 вылучылі кандыдатам у Совет Нацыянальнасцей Вярхоўнага Совета СССР тав. **Турлейскага Івана Антонавіча.** Тав. Турлейскі па нацыянальнасці паляк, сын рабочага - чыгуначніка. З юных год таварыш Турлейскі актыўна ўдзельнічаў у рэволюцыйным руху. У 1934 годзе ён арганізоўвае забастоўку студэнтаў супроць павышэння платы за абучэнне. У 1936 годзе тав. Турлейскі — адзін з арганізатараў першамайскай дэманстрацыі ў Ломжы. Яго арыштоўваюць, кідаюць у турму. Пасля выхаду з турмы яго не дапускаюць да вучобы, да работы. З вялікімі цяжкасцямі ён атрымоўвае чорную работу.

Польска - германскую вайну тав. Турлейскі сустракае радавым у польскай арміі. Калі да салдат дайшла радасная вестка аб вызваленчым паходзе Чырвонай Арміі, тав. Турлейскі, як і тысячы іншых салдат польскай арміі, кінулі зброю і прабраліся ў вызваленыя абласці.

З энергіяй і тэмпераментам тав. Турлейскі бярэцца за работу па аднаўленню прамысловасці, па навядзенню рэволюцыйнага парадку. Яго выбіраюць дэпутатам Народнага Сабрання, яго дэлегіруюць у якасці члена Паўнамоцнай Камісіі на Сесіі Вярхоўнага Совета СССР і БССР. Зараз тав. Турлейскі працуе тэхнарукам на Ломжынскім дзяржаўным сельскагаспадарчым заводзе.

Працоўныя горада Гродна вылучылі кандыдатам у дэпутаты Совета Нацыянальнасцей Вярхоўнага Совета СССР **Сяргея Осіпавіча Прытыцкага.** Каму ў Заходняй Беларусі не вядома гэта імя? Калі польскія ўлады прыгаварылі Сяргея Прытыцкага за рэволюцыйную дзейнасць да смяротнай кары, ва ўсей Заходняй Беларусі, ва ўсей Польшчы і ў другіх краінах свету ўзнялася шырокая кампанія пратэсту за выратаванне жыцця гэтага змагара. Каты адступілі, яны баяліся народнага гневу. Смяротная кара была заменена яму пажыццёвым турэмным зняволеннем.

Прышла Чырвоная Армія — і Прытыцкі на свабодзе. Змучаны, зранены, ён увесь аддаецца рабоце. Гэта ён ад імені вызваленых абласцей БССР прапанаваў на Народным Сабранні ўставіць на тэрыторыі былой Заходняй Беларусі совецкую ўладу. Ён гаварыў ад імені мільёнаў, і мільёны яго падтрымалі. Гэта ён з Крэмлёўскай трыбуны перад Сталіным, перад Совецкім парламентам, перад усёй краінай унёс прапанову аб з'еднанні беларускага народа, аб уваходжанні заходніх абласцей у састаў БССР і СССР. Зараз, працуючы на адказнай рабоце ў якасці намесніка старшыні аблвыканкома, ён аддае ўсю сваю энергію будаўніцтву новага жыцця. У ягс асобе мы маем аднаго з дастойнейшых прадстаўнікоў вызваленага народа заходніх абласцей БССР.

Рабочыя і служачыя Беластоцкага вузла вылучылі кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР рабочага тав. **Вайцэшука Пятра Кірылавіча,** а рабочыя і работніцы тэкстыльнага камбіната № 1 — работніцу **Пятроўскую Марыю Канстанцінаўну.** Гэта дастойныя прадстаўнікі рабочага класа. Тав. Вайцэшук 18 год працуе на Беластоцкім вузле. Як беларуса, польскія ўлады яго ўсяляк прыгняталі. На працягу 18 год ён усё лічыўся «часовым рабочым». Яго, беларуса, баяліся залічыць у кадры. З першых дзён прыходу совецкай улады тав. Вайцэшук змагаецца з сабатажам за ўстанаўленне парадку на чыгунцы. Яго выбіраюць на кіруючую профсаюзную работу. Зараз ён працуе загадчыкам бытавога аддзела дарожнага профсаюза і праявіў сябе, як здольны і чулы таварыш.

Аналагічна біяграфія і тав. Пятроўскай. З 1919 г. яна працуе на розных тэкстыльных фабрыках, яна выпрабавала і соцыяльны і нацыянальны прыгнёт, яе эксплаатавалі, як і тысячы іншых рабочых, над ёй яшчэ здзекваліся за тое, што яна беларуска. Зараз тав. Пятроўская вылучана на фабрыцы на адказную гаспадарчую работу.

Такія кароткія характарыстыкі першых кандыдатаў. Гэта сапраўдныя прадстаўнікі народа. Іх жадае народ бачыць сваімі дэпутатамі ў Вярхоўным Совеце. Ім народ давярае свае інтарэсы. І няма ніякага сумнення, што прапановы першых агульных сходаў будуць падтрыманы ўсімі выбаршчыкамі.

Ворагі народа будуць імкнуцца агітаваць супроць гэтых народных кандыдатаў у дэпутаты. Таварышы рабочыя і работніцы, сяляне і сялянкі, служачыя і інтэлігенцыя! Выкрывайце варожыя вылазкі, дапамагайце совецкім органам да канца разграміць усіх агентаў англійскіх і французскіх падпальшчыкаў вайны, прыкладайце ўсе сілы, каб вылучаныя вамі кандыдаты былі **падтрыманы ўсім народам!**

### РАБОЧЫМІ, ІНЖЫНЕРНА-ТЭХНІЧНЫМ ПЕРСАНАЛАМ і СЛУЖАЧЫМІ ТЭКСТЫЛЬНАГА КАМБІНАТА № 2 ВЫЛУЧАН КАНДЫДАТАМ У ДЭПУТАТЫ ВЯРХОЎНАГА СОВЕТА СССР

## Турлейскі Іван Антонавіч

*(На сходзе прысутнічала 850 чалавек)*

Радасныя і ўсхваляваныя, збіраюцца ў клубе камбіната тэкстыльшчыкі. Сюды ідуць рабочыя, інжынерна-тэхнічныя работнікі, служачыя. Яны ідуць на сход, каб вылучыць сваіх прадстаўнікоў у Вярхоўны орган улады Саюза ССР.

Першае слова атрымлівае тав. **Ражкоўская.**

— Я прапаную, — гаворыць яна,—вылучыць нашым першым кандыдатам вялікага правадыра народаў, нашага дарагога бацьку таварыша **Сталіна.**

Прапанова была сустрэнута бурнымі апладысментамі і прывітальнымі воклічамі. Сход прымае тэкст прывітальнага пісьма таварышу Сталіну.

— Сёнешні дзень, — гаворыць стары ткач **Вільчэўскі,** — павінен быць запісан у нашай гісторыі залатымі літарамі. Мы вылучаем сваіх кандыдатаў у вярхоўны орган соцыялістычнай радзімы. Гэтую магчымасць дала нам совецкая ўлада. Я прапаную вылучыць нашым кандыдатам у Вярхоўны Совет главу Совецкага ўрада таварыша **Молатава.**

Сход аднагалосна, пад дружныя апладысменты прыняў прапанову тав. Вільчэўскага.

— У гэты шчаслівы дзень, — гаворыць Паўліна Майсюк, — нашы думкі звернуты да нашай вызваліцельніцы — Чырвонай Арміі. Я прапаную вылучыць нашым кандыдатам у Вярхоўны Совет першага маршала СССР таварыша **Варашылава.**

Сход з вялікім уздымам аднагалосна прыняў гэтую прапанову.

Затым выступае ткач тав. **Сакольскі,** які гаворыць:

— Мы ўсе памятаем умовы выбараў у панскай Польшчы, той самай Польшчы, якая нават у рабочых польскай нацыянальнасці адабрала ўсе правы. Кандыдатаў нам навязвалі.

Мінулае, як кашмарны сон, знікла навек. Цяпер мы маем ўсе магчымасці вылучыць у Вярхоўны орган улады краіны соцыялізма сваіх кандыдатаў.

Я прапаную вылучыць кандыдатам у дэпутаты Совета Нацыянальнасцей Вярхоўнага Совета СССР тэхнарука Ломжынскага завода сельскагаспадарчых машын тав. **Івана Антонавіча Турлейскага,** які ўсю сваю маладосць аддаў барацьбе за інтарэсы рабочых.

Прапанову тав. Сакольскага горача падтрымалі ў сваіх выступленнях тт. Юндаў, Зімнох, Пырко і інш.

У прынятай рэзалюцыі тэкстыльшчыкі запісалі:

«Вылучыць першым кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Совета СССР правадыра народаў, бацьку і друга працоўных усяго свету Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна і яго саратнікаў т.т. Молатава і Варашылава.

Вылучыць кандыдатам у дэпутаты Совета Нацыянальнасцей Вярхоўнага Совета СССР па Беластоцкай выбарчай акрузе № 581 ад рабочых, работніц, інжынераў, тэхнікаў і служачых **тэкстыльнага камбіната № 2** тав. Турлейскага Івана Антонавіча, паляка, 1913 г. нараджэння, беспартыйнага, тэхнарука Ломжынскага завода сельскагаспадарчых машын, пражываючага ў гор. Ломжы.

Прасіць тав. Турлейскага І. А. даць сваю згоду балатыравацца ў дэпутаты Совета Нацыянальнасцей Вярхоўнага Совета СССР па Беластоцкай выбарчай акруге № 581.

Даручыць дэлегатам на акруговай прадвыбарчай нарадзе адстайваць кандыдатуру тав. Турлейскага для балатыравання ў дэпутаты Вярхоўнага Совета СССР».

### НА АГУЛЬНЫМ СХОДЗЕ РАБОЧЫХ І ІНЖЫНЕРНА-ТЭХНІЧНЫХ РАБОТНІКАЎ ГРОДНЕНСКАГА ФАНЕРНАГА ЗАВОДА ВЫЛУЧАН КАНДЫДАТАМ У ДЭПУТАТЫ ВЯРХОЎНАГА СОВЕТА СССР

## Прытыцкі Сяргей Осіпавіч

*(На сходзе прысутнічала 200 чалавек)*

Учора ў 8 гадзін вечара рабочыя, работніцы і інжынерна-тэхнічныя работнікі Гродненскага фанернага завода сабраліся на сход для вылучэння свайго кандыдата ў дэпутаты Вярхоўнага Совета СССР.

Пасля выбараў прэзідыума схода слова папрасіла работніца тав. Карпенюк Ольга. Яна гаворыць:

— Таварышы! Мы дажылі да шчаслівых і радасных дзён. Наш народ вызвален ад іга памешчыкаў і капіталістаў. Гэтым мы абавязаны ў першую чаргу другу ўсяго працоўнага народа нашаму любімаму Сталіну. Я прапаную нашым першым кандыдатам у дэпутаты вылучыць роднага **Сталіна.**

Яе апошнія словы пакрываюцца бурнымі апладысментамі. Усе рабочыя аднадушна галасуюць за гэту прапанову.

Затым слова папрасіў тав. Шэмет. Ён прапануе вылучыць кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Совета СССР бліжэйшага саратніка таварыша Сталіна, главу Совецкага ўрада таварыша **Молатава.** Гэта прапанова сустракаецца дружнымі апладысментамі.

Слова атрымлівае тав. Арановіч.

— Таварышы, я прапаную вылучыць кандыдатам у Совет Нацыянальнасцей Вярхоўнага Совета СССР стойкага барацьбіта за справу працоўных **Сяргея Осіпавіча Прытыцкага,** па нацыянальнасці беларуса, які зараз працуе намеснікам старшыні Беластоцкага аблвыканкома.

Імя Сяргея Прытыцкага вядома ўсім рабочым. У выступленнях на сходзе многія таварышы расказалі аб рэволюцыйнай дзейнасці тав. Прытыцкага. Толькі Чырвоная Армія вызваліла Прытыцкага з турмы, як і мільёны іншых працоўных, якія жылі ў турме народаў—былой панскай Польшчы.

У прынятай рэзалюцыі агульны сход запісаў:

«Вылучыць Прытыцкага Сяргея Осіпавіча кандыдатам у дэпутаты Совета Нацыянальнасцей Вярхоўнага Совета СССР ад Гродненскай выбарчай акругі № 582 і прасіць тав. Прытыцкага даць згоду балатыравацца па гэтай акрузе».

### РАБОЧЫМІ, РАБОТНІЦАМІ, ІНЖЫНЕРНА-ТЭХНІЧНЫМ ПЕРСАНАЛАМ і СЛУЖАЧЫМІ 1 ТЭКСТЫЛЬНАГА КАМБІНАТА ВЫЛУЧАНА КАНДЫДАТАМ У ДЭПУТАТЫ ВЯРХОЎНАГА СОВЕТА БССР

## Пятроўская Марыя Канстанцінаўна

*(На сходзе прысутнічала 1.300 чалавек).*

1300 рабочых і работніц І-га тэкстыльнага камбіната сабраліся ў памяшканне прадзільнага цэха на прадвыбарчы **сход,** прысвечаны вылучэнню кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР.

Адкрываецца сход. На трыбуну падымаецца стары рабочы тав. **Гайдучук.**

— Дарагія таварышы! Я жыў пры былым царскім урадзе, я жыў у часе панскай Польшчы, і толькі зараз наступілі для мяне, як і для ўсяго народа заходніх абласцей Беларусі і Украіны, шчаслівыя і радасныя дні. Гэта шчасце прынесла нам Чырвоная Армія, створаная вялікім Сталіным. Я прапаную вылучыць першымі нашымі кандыдатамі ў Вярхоўны Совет БССР нашага вызваліцеля, бацьку і настаўніка ўсіх працоўных — любімага таварыша **Сталіна** і яго бліжэйшага саратніка, главу Совецкага ўрада тав. **Молатава.**

Гэта прапанова была сустрэта бурнымі апладысментамі.

Слова прадастаўляецца майстру ткацкага цэха стаханаўцу Людвігу Пятроўскаму.

— Я падтрымліваю прапанову тав. Гайдучука аб вылучэнні нашымі першымі кандыдатамі таварышоў Сталіна і Молатава. Ад імя калектыва нашага камбіната я прапаную вылучыць кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР тав. Марыю Канстанцінаўну Пятроўскую — стаханаўку нашага камбіната.

На сходзе выступілі тт. Вальфранг, Дзіновіч, Баршэўская, Барташук, Мілер і Канцэпольскі. Усе яны ў сваіх выступленнях аднадушна падтрымалі прапановы тт. Гайдучука і Пятроўскага.

З прамовай выступае Марыя Канстанцінаўна Пятроўская.

— Таварышы! Я абяцаю сваёй чэснай работай апраўдаць давер'е партыі і ўрада і ваша, дарагія таварышы, давер'е. Я ўсё сваё жыццё аддам для народа, для далейшага паляпшэння дабрабыту працоўных.

Сход аднагалосна прыняў рэзалюцыю:

„Вылучыць кандыдатамі ў дэпутаты Беларускай ССР таварышоў Сталіна і Молатава; вылучыць ад рабочых, служачых і інжынерна - тэхнічных работнікаў першага тэкстыльнага камбіната т. Пятроўскую Марыю Канстанцінаўну, 1902 г. нараджэння, работніцу - прадзільшчыцу першага тэкстыльнага камбіната, па нацыянальнасці беларуску, беспартыйную, пражываючую ў вёсцы Бацечкі, Беластоцкага раёна.

Прасіць тав. Пятроўскую М.К. даць сваю згоду балатыравацца ў дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР па Беластоцкай Пролетарскай выбарчай акрузе № 352".

### НА АГУЛЬНЫМ СХОДЗЕ БЕЛАСТОЦКІХ ЧЫГУНАЧНІКАЎ ВЫЛУЧАН КАНДЫДАТАМ У ДЭПУТАТЫ ВЯРХОЎНАГА СОВЕТА БССР

## Вайцэшук Пётр Кірылавіч

*(На сходзе прысутнічала 1500 чалавек)*

Клуб чыгуначнікаў у святочным убранні. Над сцэнай вялікія партрэты любімых правадыроў. Сцэна тоне ў кветках.

5 гадзін. Зал запоўнілі паўтары тысячы чыгуначнікаў Беластоцкага вузла і Ўпраўлення дарогі. Хтосьці з першых радоў пачаў песню аб Сталіне, яе падхапілі дружныя галасы ўсіх прысутных.

Па прапанове тав. Каласкова ў састаў прэзідыума выбіраецца 13 чалавек.

Слова атрымлівае былы стрэлачнік, а зараз загадчык бытавым сектарам Дарпрофсожа тав. Вайцэшук Пётр Кірылавіч.

— Я адчуваю на сабе штодзённыя клопоты нашай партыі і вялікага бацькі нашага таварыша Сталіна. Я прапаную вылучыць першым нашым кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Совета СССР таварыша **Сталіна.**

Апошнія словы тав. Вайцэшука тонуць у буры апладысментаў, крыкаў «ура» і прывітальных воклічаў у чэсць любімага правадыра.

Токар механічнага цэха Ольга Бертова прапануе вылучыць кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Совета СССР главу Совецкага ўрада таварыша **Молатава.** Сход аднадушна падтрымлівае гэту прапанову.

Машыніст паравознага дэпо тав. Труфанаў прапануе вылучыць кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Совета СССР сталінскага Наркома таварыша Лазара Майсеевіча **Кагановіча.** Пад прывітальныя воклічы і крыкі «ўра» прымаецца гэта прапанова.

На трыбуне — стрэлачнік станцыі Беласток П. А. Баравік.

— Ад імя профсаюза чыгуначнікаў станцыі Беласток прапаную вылучыць кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР малодшага стрэлачніка, зараз вылучанага на пасаду загадчыка бытавым сектарам Дарпрофсожа тав. **Вайцэшука** Пятра Кірылавіча. З прыходам Чырвонай Арміі ён актыўна ўключыўся ў работу па ўстанаўленню совецкіх парадкаў на станцыі, па выкрыццю варожых элементаў. У снежні 1939 года ён выбран у члены мясцкома, а на дарожнай профсаюзнай канферэнцыі-делегатам на X Усесаюзны з'езд профсаюзаў. Будучы членам прэзідыума Дарпрофсожа і загадчыкам бытавым сектарам, праявіў сябе актыўным, чэсным работнікам, да канца адданым справе Леніна—Сталіна. Я ўпэўнен, што тав. Вайцэшук будзе дастойным кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР.

Прапанову тав. Баравіка горача падтрымалі слесар Іван Давідавіч Шварцман, стрэлачнік Іван Іванавіч Верэмеюк і намеснік старшыні Дарпрофсожа т. Сірабаярскі.

Сход аднадушна пастанавіў:

«Вылучыць кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР тав. Вайцэшука Пятра Кірылавіча, 1906 г. нараджэння, беспартыйнага, працуючага загадчыкам бытавым сектарам Дарпрофсожа і пражываючага ў гор. Беластоку».

